



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 красавіка 2015 года №15 **(1041)**





**На адну вакансію ў Вілейцы прыходзіцца сем беспрацоўных**
старонка 3



**Саша Герасіменя: "Езджу ў метро па праязным таты"**
старонка 22

## Маладзечанскай міліцыі – 55!



Паважаныя супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС і ўсе тыя, хто стаяў ля вытокаў утварэння міліцыі Маладзечаншчыны!

Ад усёй душы віншуем вас з 55-годдзем гэтай знамянальнай даты. Дзякуем ветэранам за слаўныя традыцыі, устаноўленыя імі, а цяперашнім супрацоўнікам – за падтрыманне гэтых традыцый на высокім прафесійным узроўні.

Жадаем усім вам моцнага здароўя, невычэрпнай энергіі, паразумення і ладу ў сем'ях. Няхай ваша цяжкая праца прыносіць задавальненне і ўсведамленне таго, што робіце вы важную справу.

Каб заўсёды была ў вас нагода ўсміхацца і радавацца жыццю, каб часцей чулі словы падзякі ад тых, каму дапамаглі ў складанай сітуацыі. Высока нясіце сваё званне і заставайцеся гарантам законнасці і сацыяльнай стабільнасці.

**Кіраўніцтва Маладзечанскага РАУС.**



# Махляркі абяцалі замяніць лінолеум... і абакралі пенсіянерку

ВАЛОЖЫН

**У Валожынскім раёне дзве жанчыны прадставіліся работнікамі службы сацзабеспячэння і абакралі 81-гадовую бабулю.**



Фота newsblad.be

**Перад тым, як даверыцца незнаёмым прадстаўнікам службаў, праверце іх дакументы.**

Падазраваныя патрапілі ў аб'ектыў камеры відэаназірання крамы.

26 сакавіка ў Валожынскі РАУС звярнулася 81-гадовая жыхарка вёскі Ткачы. Па словах жанчыны, двума днямі раней да яе прыйшлі дзве работніцы службы сацзабеспячэння і абрадавалі навіной: нібыта да Дня Перамогі ёй, як пенсіянерцы, райвыканкам бясплатна заменіць лінолеум у доме. Пакуль адна з наведніц адцягвала ўвагу, запаўняючы паперы на кухні, другая, пад падставай абмеру памяшкання, хадзіла па пакоях.

Увечары таго ж дня пенсіянерка выявіла прапажу сваіх зберажэнняў – пяць мільёнаў рублёў, якія захоўваліся ў канапе, пад матрацам.

### Міліцыя просіць быць пільнымі

Аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама просіць жыхароў Валожынскага раёна дапамагчы ў вышуку дзвюх жанчын, што абакралі пенсіянерку.

Абедзве падазраваныя – смуглатварыя жанчыны, на выгляд 35-40 год, ростам каля 160 сантыметраў, мажнага целаскладу, у цёмнай вопратцы.

Ездзілі на белым аўтамабілі, як мяркуецца, "Опель-Астра", якім кіраваў смуглы мужчына.

Напярэдадні падобныя па прыкметах жанчыны і мужчына заходзілі ў краму "Парк", размешчаную ў Івянцы. Там яны патрапілі ў поле зроку камер відэаназірання (глядзіце на сайце rh.by).

Просьба да грамадзян, якія пазналі падазраваных, патэлефанаваць па нумарах: **(8-029) 530-54-88, (8-029) 685-45-43, (8-01772) 5-40-21.**

Канфідэнцыяльнасць гарантуецца.

### Як не трапіць на вуду махляроў

Следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі** у чарговы раз перасцерагае жыхароў раёна быць пільнымі і не адчыняць дзверы незнаёмым людзям:

– Самы просты спосаб пераканацца ў тым, што вашы госці прадстаўнікі нейкай службы – гэта папрасіць у іх пасведчанне асобы або іншы дакумент, які пацвярджае тое, што яны супрацоўнікі нейкай арганізацыі. Па-другое, памятайце, што ў многіх спецыялістаў павінна быць уніформа, спецадзенне.

Яшчэ адна парада следчага: не набывайце рэчы, якія прыносяць вам дадому.

– У нас не так даўно быў выпадак, калі жанчына набыла набор каструляў. Мала таго, што аддала махлярам грошы за тыя каструлі, дык яны яшчэ і прыхапілі астатнія зберажэнні гаспадыні.

**Наталля ТУР.**

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Ферма ўтварыла возера з гнаявых нечыстот

МАЛАДЗЕЧНА

**Сеюць на леташні ўраджай, кепска рыхтуюць глебу, угнаенні даводзяць да акамянення, а гнаясховішча перапоўненае.**

Такія недахопы заўважылі прадстаўнікі Камітэту дзяржкантролю падчас маніторынгу пасяўной кампаніі.

На 1 красавіка Маладзечанскі раён быў у лідарах па падрыхтоўцы глебы да сяўбы: апрацавалі 45% плошчы пры 28% па вобласці.

Прадпрыемствы "Купала-Агра" і "Відзеўшчына" выканалі 11,5% і 21,8% ад запланаванага аб'ёму адпаведна.

Пры гэтым многія плошчы яны не падрыхтавалі належным чынам. Работнікі "Купала-Агра" ў некаторых месцах зусім не апрацавалі глебу. Таму на 14 гектарах насенне засеялі з бракам.

**Уражваюць маштабы – каля 80% пасяўнога матэрыялу проста ляжыць на паверхні.**


Фота аб'яднанага Маладзечанскага міжраённага КДК.

Безгаспадарлівасць у прадпрыемстве "Відзеўшчына" прывяла да таго, што ўтварылася возера з нечыстот.

У раллі знайшлі шматлікія сфарміраваныя пачаткі кукурузы. Летась яе дрэнна і безгаспадарліва збіралі.

Няякасная падрыхтоўка глебы кепска адб'ецца на будучым ураджаі. Такая сітуацыя, напрыклад, на 115 гектарах ва ўрочышчы "Сычавічы": на зямлі засталося мноства пустазелля. Тая ж праблема ёсць і ў гаспадарцы "Відзеўшчына".

Да таго ж мінеральныя ўгнаенні там захоўваюць у аварыйным будынку, у якім няма часткі сцяны і працякае дах. Затое шчыльна замыкаюць дзверы на ключ.

Каля 30 тон амафосу тут ужо месцамі скамянела. А фасфатныя ўгнаенні проста рассыпаныя па дарозе каля склада. І гэта пры тым, што гаспадарка забяспечаная імі менш, чым на чвэрць ад патрэбнай колькасці.

Прычэпаў для вывазу і ўнясення ўгнаенняў няма, таму гнаясховішча перапоўненае. На прылеглай да фермы тэрыторыі ўтварылася возера з гнаявых нечыстот.

Дадае праблем недапрацоўка з тэхнікай. Некаторыя агрэгаты патрабуюць рамонту, а ўсе 20 трактароў у СВК "Купала-Агра" чакаюць тэхагляду. Пакуль на гэта няма грошай.

**Паводле Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**


Фота Глеба ЛАБАДЗЕНКІ.

Медыяэксперт кіраўнік аналітычных праектаў інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Аляксандр Класкоўскі.

● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Аляксандр Класкоўскі пра "Рэгіянальную газету"

**Мы запрасілі падзяліцца меркаваннем пра наша выданне аднаго з самых аўтарытэтных журналістаў Беларусі медыяэксперта Аляксандра Класкоўскага:**

– "Рэгіянальная газета" – гэта выданне, за якім я сачу даволі даўно. І не толькі таму, што я як медыяэксперт павінен мець уяўленне пра рэгіянальную прэсу. Мне імпануе як чалавеку беларускамоўнаму, што гэта ўнікальны і фенаменальны для Беларусі выпадак, улічваючы нашу драматычную моўную сітуацыю. Гэта газета, якая прынцыпова ад самага пачатку робіцца на матчынай мове, на мове тытульнай нацыі.

Зразумела, што такая пазіцыя можа ствараць пэўныя цяжкасці, улічваючы, наколькі русіфікаванае грамадства. Цяжкасці могуць узнікаць і з накладам, і з рэкламай. Гэта, без залішняга пафасу, высокая місія, якая заслугоўвае адпаведнай ацэнкі.

Мне як эксперту падаецца адметным уменне канкрэтна, дэлавіта, без залішніх эмоцый гаварыць аб праблемах рэгіёна. Выданне, з аднаго боку, узважанае, а з іншага, дастаткова прынцыповае і крытычнае, якое не пазбягае праблем.

Хаця, як вядома, хто крытыкуе, той найбольш рызыкуе. Варта аддаць належнае – рэдакцыя і яе кіраўнік ідуць на разумную рызыку.

Мне бачная дынаміка выдання. Калектыў малады, крэатыўны, і газета пастаянна развіваецца. Сайт з кожным годам выглядае ўсё больш сучасна. Гэта дынаміка ёсць добрая зарука таго, што ў сённяшні эканамічна складаны час, час духоўнага крызісу грамадства, калі новыя тэхналогіі мяняюць медыйны ландшафт, "Рэгіянальная газета" і сёння, і заўтра будзе займаць сваю трывалую нішу на медыйным рынку Беларусі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КАРУПЦЫЯ

## Больш за два мільёны долараў канфіскавалі ў мытнікаў з "Каменнага Логу"

АШМЯНЫ

Як адзначаецца ў паведамленні прэс-службы КДБ, "спыненая супрацпраўная дзейнасць групы асоб з ліку дзейных і былых супрацоўнікаў Ашмянскай мытні, якая арганізавала шырокамаштабную схему ўхілення ад выплаты мытных плацяжоў".

"Удзельнікі злачыннай групы за хабары, парушаючы мытнае заканадаўства, ажыццяўлялі бесперашкодны пропуск буйных партый розных тавараў праз дзяржаўную мяжу краіны ў пункце пропуску "Каменны Лог".

Сумы незаконнага грашовага ўзнагароджання складалі ад 250 да 3000 долараў ЗША – у залежнасці ад колькасці перамешчаных грузаў".

Паведамляецца, што адзін з удзельнікаў злачыннай групы за штомесячную ўзнагароду ў 1000 долараў прыкрываў злачынную дзейнасць затрыманых, перадаючы ім звесткі аб праверачных мерапрыемствах, запланаваных Дзяржаўным мытным камітэтам.

Затрыманыя і змешчаныя пад варту 19 чалавек.

Па месцы жыхарства фігурантаў канфіскавана наяўных грашовых сродкаў больш як на 2,2 мільёна долараў. На аб'екты нерухомасці і транспартныя сродкі асоб, што праходзяць па крымінальных справах, накладзены арышт.

Праваахоўныя органы адзначаюць, што ... Праводзіцца неабходныя аператыўна-вышуковыя і следчыя дзеянні, скіраваныя на выяўленне і дакументаванне іншых эпізодаў супрацьпраўнай дзейнасці падазроных", – паведамляе прэс-служба КДБ.

Пра выкрытую карупцыйную схему ў дзейнасці Ашмянскай мытні паведаміў 3 красавіка Аляксандр Лукашэнка.

**Паводле БелаПАН.**

● НАВІНЫ

## Цягнік Мінск-Гродна, які ідзе праз Маладзечна, змяніў расклад руху

МАЛАДЗЕЧНА

Замест запланаваных 5 гадзін 10 хвілін цягнік будзе ў дарозе 4 гадзіны 34 хвіліны.

Са станцыі Мінск-Пасажырскі цягнік адпраўляецца ў 6:56. У 7:58 прыбывае ў Маладзечна. У Гродне ён у 11:26, што на 40 хвілін раней.

З Гродна на Мінск цягнік будзе адпраўляцца пазней. Замест 14:24 – у 15:25. У Маладзечна прыбудзе ў 18:58. У Мінску ён будзе ў 19:59 замест 19:33.

Пра змены ў раскладзе руху цягніка паведаміла дзяжурная па вакзалу станцыі "Маладзечна" **Ніна Шкараедава.**

## У Ашмянах працуе пробны маршрут Повішні-Кракоўка

АШМЯНЫ

Ён пачаў дзейнічаць ад 6 красавіка. Цягам месяца за маршрутам будуць назіраць – ці ёсць пасажыры.

– Пакуль у аўтобусе ездзяць адзін-два чалавекі, – адзначае старшы касір Ашмянскага аўтапарка **Ганна Янушкевіч.** – Калі пасажыраў і далей не будзе, то маршрут не будзе працаваць.

Аўтобус ходзіць ад панядзелка да пятніцы. З плошчы 17 Верасня ён адпраўляецца ў 12:30. Наступны рэйс у 14:30.

**Галіна СІНІЦА.**

● ТРАНСПАРТ

## Паркоўку для ровараў устанавілі ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

З'явілася першая паркоўка для ровараў, зробленая ў межах конкурсу "Так – роварнаму руху".

Яе ўстанавілі 7 красавіка каля хірургічнага комплексу Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы па вуліцы Маркава. Прызначаная яна для шасці ровараў.

Зрабілі паркоўку па эскізе аднаго з удзельнікаў, расказала старшыня праўлення грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка.**

У Вілейцы ўстановяць яшчэ тры паркоўкі для ровараў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

РЫНАК ПРАЦЫ

# Беспрацоўных больш, вакансій менш

## На адну вакансію ў Вілейцы прыходзіцца сем беспрацоўных

ВІЛЕЙКА

**Таццяна Цітуленка пра беспрацоўе можа разважаць не толькі з пазіцы кіраўніка аддзела занятасці. Яна і сама двойчы была беспрацоўнай. Таму дзеліцца парадамі, як шукаць працу.**

Беспрацоўных у Вілейскім раёне за год стала больш амаль утрая: з 81 да 221 чалавека. Вакансій жа, наадварот, за год паменела з 80 да 48.

Асабліва рэзка колькасць вакансій зменшылася ў горадзе – утрая. На адну вакансію ў Вілейцы прыходзіцца сем беспрацоўных (летась – адзін).

**Рост беспрацоўя характэрны не толькі для Вілейшчыны. РГ" пісала, што на пачатак года колькасць беспрацоўных павялічылася ва ўсіх раёнах рэгіёна.**

### Мужчыны цікавяцца працай вартаўніка

У многім беспрацоўных большае ў сувязі з Дэкрэтам "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства".

Напрыклад, на Вілейшчыне беспрацоўных паболела ўжо ў студзені. А найбольш людзей у аддзел занятасці прыйшло ў сакавіку. За месяц звярнуліся 100 чалавек, 50 з іх прызначылі дапамогу.

А тыя, хто не верыў, што дэкрэт хутка падпішуць, захваляваліся цяпер. Ужо ў панядзелак у аддзел прыходзілі два маладыя чалавекі, казалі што прымусіў завітаць так званы "падатак на дармаедства".

Аднак павелічэнне беспрацоўных не звязваюць толькі з дэкрэтам. Хтосьці пасля дэкрэтнага адпачынку шукае лепшую працу, з кімсьці не працягнулі кантракт. Ды і прадпрыемствы сталі штат аптымізаваць. Па дадзеных аддзела, за год на Вілейшчыне скарацілі 50 чалавек.

– Людзі шукаюць, каб была большая зарплата і не вельмі цяжкая праца – і гэта зразумела, – кажа Таццяна Цітуленка. – Шукаюць працу бухгалтара, эканаміста. Завітваюць і зусім без адукацыі, гатовыя на любую работу. Мужчыны вельмі цікавяцца працай вартаўніка. Але маюць пра яе састарэлае ўяўленне. Цяпер нармальныя вартаўнікі павінны мець добрае здароўе, хутка бегаць.

### Беспрацоўе набывае мужчынскі характар

Раней газеты часта пісалі пра "беспрацоўе з жаночым тварам". І для Вілейкі тое было характэрна: сярод беспрацоўных было каля 70% жанчын.

Але апошнім часам на ўліку стала больш мужчын. Калі браць звесткі па горадзе, то цяпер са 155 беспрацоўных 64 жанчыны.

**Партрэт сярэднестатыстычнага беспрацоўнага: мужчына пасля 40 год, бліжэй да 50. У яго максімум сярэдняя спецыяльная адукацыя, найчасцей вучыўся ў ПТВ.**

Большасць з тых, хто стаіць на ўліку, хоча знайсці працу, ахвотна ідзе на навучанне новай спецыяльнасці, падкрэслівае Таццяна Цітуленка.

– Будзем актыўней працаваць, каб падштурхнуць беспрацоўных заняцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, – кажа яна. – Ёсць кароткатэрміновыя курсы, дзе знаёмяць з азамі справы. Трэба людзей прывучаць, каб яны самі былі адказныя за свой лёс.

### Парады, для тых хто шукае працу

Таццяна Цітуленка сама шукала працу і ахвотна дзеліцца досведам:

– Не саромейцеся гаварыць, што аказаліся без працы – мо, падкажуць варыянты працаўладкавання. Рабіце ўсё паралельна: расказвайце знаёмым, прыходзьце ў службу занятасці. Але спачатку зрабіце добрае рэзюме, занясіце ва ўсе арганізацыі, дзе вашы навыкі могуць быць карысныя. Чалавек павінны ўмець сябе выгадна падаць.

Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by



Дыяграма Алеся ВЫСОЦКАГА.

### Топ-вакансій на Вілейшчыне

Актуальныя вакансіі можна знайсці на сайце райвыканкама, у раздзеле "Вакансіі" і банку дадзеных на сайце Міністэрства па працы і сацыяльнай абароне. Па дадзеных на 6 красавіка, на Вілейшчыне найбольшы заробак абяцаюць галоўным энергетыку, ветдоктару і заатэхніку ў "Першым Беларускім" – па 6,5 мільёна рублёў. 5,5 мільёна гатовы плаціць галоўнаму інжыneру ў Вілейскім райаграсэрвісе. Прытым, што абедзве гэтыя арганізацыі маюць запазычанасці па заробку паводле Нацстата на 1 красавіка (інфаграфіку па рэгіёне глядзіце справа ўверсе ў рубрыцы "Лічба нумара").

Менш за ўсіх на поўную стаўку зможа зарабіць повар у Рабунскім садзе-школе і педагог-псіхолаг у Дзіцячым цэнтры развіцця дзіцяці – два мільёны 200 тысяч.



**ЛІЧБА НУМАРА**

**73**

арганізацыі рэгіёна маюць запазычанасць па зарплаце на 1 красавіка 2015 года, ці **14%** па Беларусі

Усяго ў Беларусі – **518**

Астравец 1, Мядзел 10, Ашмяны 7, Смаргонь 2, Вілейка 19, Маладзечна 19, Валожын 15

Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 2.04 | 9.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 700,00 | **14 490,00** |
| Еўра | 15 830,00 | **15 840,00** |
| Злоты | 3 858,57 | **3 869,31** |
| Расійскі рубель | 255,00 | **262,00** |
| Грыўня | 626,87 | **616,07** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 8.04** | | |
| Еўра | 15600/15850 | **15600/15850** |
| Долар ЗША | 14500/14720 | **14320/14520** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 1.04 | 8.04 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 24800 | **24500** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 90000 | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41500 | **39500** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 134000 | **100000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 14900 | **11900** |
| Морква, 1 кг | 5900 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Радыска (пучок) | - | **12500** |
| Лімоны, 1 кг | 22500 | **22500** |
| Апельсіны, 1 кг | 22500 | **19900** |
| Мандарыны, 1 кг | 22900 | **22900** |
| Ківі, 1 кг | 27500 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 29900 | **35900** |
| Агуркі, 1 кг | 36900 | **34900** |
| Перац, 1 кг | 37900 | **42900** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 22900 | **23900** |
| Яблыкі, 1 кг | 10900 | **11900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **60000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# “Слабак, ты не зможаш!”

## Жыхар Вілейшчыны забіў стрыечнага брата “на слабо”

ВІЛЕЙКА

**Трагедыя здарылася 5 лістапада мінулага года. У гэты дзень 37-гадовы жыхар вёскі Барысаўшчына нарыхтоўваў дровы.**

Стрыечны брат дапамагаў яму. Выпілі і ў лесе, і па заканчэнні працы дома.

Каля шасці гадзін вечара выйшлі на двор пакурыць. Узнік канфлікт: гаспадар моцна пакрыўдзіўся на словы госця. У гаспадара пры сабе быў нож. Выняў яго з ножнаў і сказаў: “Зараз я цябе парэжу”.

Той адказаў прыкладна так: “Нічога ты не парэжаш. Слабак, ты не зможаш”. І расставіў рукі. Каб даказаць, што не слабак, мужчына ўдарыў раз. На што пачуў: “Слабо яшчэ раз?”

У выніку мужчына нанёс свайму брату не менш за тры ўдары нажом у грудзі. Адзін з іх аказаўся скразным пашкоджаннем сэрца.

У ахвяры пайшла кроў, мужчына абсеў. Ён памёр да прыезду “хуткай дапамогі” ад вострага ўнутранага і вонкавага крывацёку.

Дзеянні жыхара вёскі Барысаўшчына кваліфікавалі як забойства.

### Пакаранне – восем з паловай год за забойства

Суд Вілейскага раёна з прад’яўленым абвінавачваннем пагадзіўся. Прызначыў 37-гадоваму вяскоўцу пакаранне – восем з паловай год пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Дарэчы, раней ён не быў судзімы, працаваў лесніком.

Санкцыя часткі першай артыкула 139 Крымінальнага кодэкса Беларусі прадугледжвае пакаранне ад шасці да 15 год. Суд улічыў тое, што мужчына адразу пасля забойства паведаміў у міліцыю па тэлефоне, сказаўшы: “Я забіў”. Ён актыўна садзейнічаў выяўленню злачынства. Таксама суд улічыў тое, што на яго ўтрыманні знаходзіцца 13-гадовае дзіця. Абцяжарваючымі абставінамі прызналі знаходжанне ў стане алкагольнага ап’янення.

Прысуд уступіў у законную сілу 31 сакавіка.

**Віктар ГАТОЎКА,**
**намеснік пракурора**
**Вілейскага раёна.**



Фота afrubav.ru

Мужчына пакрыўдзіўся на словы госця і нанёс яму смяротны ўдар нажом.

# П’яная кампанія на аўто ўцякала ад міліцыі

АСТРАВЕЦ

**Жаданне і магчымасць пракаціцца п’яным на вуліцах горада за рулём аўтамабіля бізнес-класа “Мерседэс-Бэнц Е320” 2005 года выпуску супалі летась 4 лістапада. 25-гадовага бяспраўніка не спынілі ні папярэднія судзімасці, ні тое, што шыкоўнае аўто не яго.**

Знаёмы на дзень даверыў К. сваю машыну. Паводле слоў гаспадара “Мерседэса”, К. і Д. завезлі яго дамоў, у адну з вёсак Астравецкага раёна, а самі вярнуліся ў райцэнтр. На вуліцы Маркава яны выпілі. У адной кампаніі з імі была дзяўчына, якая неўзабаве настойліва папрасіла завезці яе дамоў.

Д. вельмі хацеў пакатацца за рулём машыны. Крыху праехаўшы, заўважыў аўтамабіль супрацоўнікаў міліцыі. Д. развярнуўся і паехаў далей. Манеўр адвочна п’янага кіроўцы адразу прыцягнуў увагу. Міліцыянеры паехалі за “Мерседэсам”.

Машына спынілася каля крамы “Будаўнік”. Не выходзячы з салона, кіроўца дастаў ключы з замка запальвання, кінуў іх на дыванок, а сам пералез на задняе сядзенне. Калі міліцыянеры падышлі да аўто, дзверы былі заблакаваныя, а п’яная кампанія сядзела ў салоне. К. сцвярджаў, што кіроўца некуды выйшаў.

Але міліцыянеры бачылі, як Д. пералазіў на задняе сядзенне. У момант, калі ён даставаў ключ, у салоне ўключылася святло.

Відэарэгістратар стаў тым сведкам, які дапамог аднавіць падзеі таго дня.

Паводле медыцынскага агляду, канцэнтрацыя пароў спірту ў Д. 2,87 праміле. Магчыма, затрымаўшы яго ў той вечар, міліцыянеры выратавалі камусьці жыццё.

Суд Астравецкага раёна прызначыў Д. пакаранне – абмежаванне свабоды ў выпраўленчай установе адкрытага тыпу на два гады. Таксама пазбавілі права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспарту на пяць год, і далі штраф на 200 базавых велічынь, ці 36 мільёнаў рублёў. “Мерседэс” канфіскавалі ў даход дзяржавы.

Калі перадаяце машыну, памятайце, калі ім будзе кіраваць п’яны “паўторнік”, вашу машыну канфіскуюць.

Нягледзячы на тое, што ўвага да п’яных кіроўцаў штогод павялічваецца, “паўторнікаў” менш не становіцца. Канфіскацыя машыны, якая ім не належыць, – звычайная справа.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ,**
**старшы памочнік пракурора**
**Астравецкага раёна.**

ЗДАРЭННЕ

# Пагоня на Мядзельшчыне: каб затрымаць парушальніка, міліцыянеры стралялі па машыне

МЯДЗЕЛ

**Здарэнне адбылося 31 сакавіка а палове восьмай вечара ў вёсцы Засвір.**

Падчас патруля міліцыянеры ўбачылі, як са стаянкі заднім ходам на вялікай хуткасці выязджае машына “Аўдзі-А6”. Кіроўца не звяртаў увагі на машыны, якія ехалі па галоўнай. Ім прыйшлося тармазіць, каб пазбегнуць аварыі.

Адзін з міліцыянераў паказаў жэзлам, каб кіроўца спыніўся. Аднак машына рэзка кранулася з месца і пачала з’язджаць на вялікай хуткасці. Міліцыянеры пачалі пераследаванне.

Кіроўца падрэзаў міліцэйскую машыну, калі яго паспрабавалі абагнаць. Міліцыянеры вымушаны былі страляць – адзін раз па пярэднім левым коле, другі – па заднім.

І пасля гэтага кіроўца працягваў ехаць. Праз некалькі кіламетраў ён спыніўся. Аднак адмовіўся выйсці з машыны, закрыў дзверы знутры. З ім ехалі яшчэ чатыры маладзёны.

Калі кіроўцу затрымалі, ён супраціўляўся, пашкодзіў адзенне міліцыянераў.

Кіроўцам аказаўся 29-гадовы смаргонец. У лютым яго прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці за тое, што ездзіў п’яным на гэтай жа машыне.

Маладзёна могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці з канфіскацыяй машыны.

**Паводле часопіса**
**“Чалавек і закон”.**

ЗДАРЭННІ

# Маршрутка Мінск-Маладзечна трапіла ў кювет

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 3 красавіка ў шэсць раніцы побач з вёскай Красоўшчына.

Кіроўца мікрааўтобуса “Фольксваген”, прызначанага для перавозкі пасажыраў, ехаў з Мінска ў Маладзечна. Ён не ўлічыў дарожнае пакрыццё, не справіўся з кіраваннем і з’ехаў у кювет, дзе машына перакулілася.

У мікрааўтобусе не было пасажыраў, кіроўца не атрымаў пашкоджанняў.

Пра здарэнне паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Галіна СІНІЦА.**

# Апавяшчальнік выратаваў жыццё

МЯДЗЕЛ

Уначы 3 красавіка адбыўся пажар у г. п. Свір на Мядзельшчыне. Паведамленне выратавальнікам паступіла пасля гадзіны ночы.

Мужчына прачнуўся ад сігналу аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка, прыбег да суседзяў. Адтуль і патэлефанавалі ў выратавальную службу.

Пажарная аварыйна-выратавальная часць знаходзіцца паблізу: выратавальнікі хутка спынілі агонь, не далі згарэць дому.

У выніку выгараў адзін пакой, кухня і прыхожая закурадымленыя, расказаў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш.** Мужчына жыве адзін, яму 61 год.

Апавяшчальнікі ў доме ўстанавілі год таму з дапамогай Мядзельскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

# Летась на Маладзечанскай чыгунцы загінула пяць чалавек

МАЛАДЗЕЧНА.

Усяго было 10 здарэнняў.

Асноўнымі прычынамі з’яўляецца тое, што людзі знаходзяцца на чыгунцы ў стане алкагольнага ап’янення, пераходзяць дарогу не па пешаходных насцілах і пераходах.

Маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце нагадвае, што за пераход па чыгуначных пуцях у недазволеных месцы накладаецца штраф да двух базавых велічынь (360 тысяч рублёў).

**Паводле Маладзечанскага**
**аддзела ўнутраных спраў**
**на транспарце.**

УВАГА! ВЫШУК

# Шукаюць ураджэнку Ашмянаў, якая знікла летась

АШМЯНЫ



Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта шукае **Алену Станіславаўну Станчык.** Яна жыла ў Ашмянах па вуліцы Крынічнай.

1 сакавіка 2014 года каля шасці вечара жанчына пайшла з дому. Да цяперашняга часу яе месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:**

на выгляд 30-35 гадоў, рост 160 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, твар авальны, плечы прыпаднятыя, лоб сярэдні вертыкальны, вушы сярэднія, трохвугольнай формы, валасы прамыя кароткія, вочы шэрыя. Была апранутая ў карычневую чырвоную куртку, кароткую сукенку шэрага колеру, карычневыя боты на абцасах.

Просім грамадзян, якія нешта ведаюць пра месцазнаходжанне жанчыны, паведаміць па наступных нумарах тэлефона: **(801593) 71255, (801593) 45006.**

**Алеся ПЯТРОВА,**
**следчая**
**Ашмянскага РАСК.**

АДУКАЦЫЯ

# Вучань зрабіў санкі са старых крэслаў

## Школьнік з Вілейкі перамог на алімпіядзе па працоўным навучанні

ВІЛЕЙКА

**Зіма скончылася, але сёння ёсць яшчэ адна нагода пра яе ўспомніць. Вучань 11 класа гімназіі №1 "Логас" Яўген Ручыц вярнуўся з рэспубліканскай алімпіяды па працоўным навучанні з Дыпломам другой ступені.**



Фота забяспечана Аленай МАЧЭЛЬ.

Злева Яўген Ручыц, які атрымаў за санкі Дыплом другой ступені на рэспубліканскай алімпіядзе па працоўным навучанні. Побач вучань 1 "А" класа вілейскай гімназіі "Логас" Кірыл Новікаў.

Скажаце, прычым тут зіма? А іменна зімовы праект дапамог Яўгену дабіцца такіх высокіх поспехаў. Які? Санкі…

Простае заўсёды лепш за складанае. А вось санкі, зробленыя сваімі рукамі, – гэта зусім не проста. Але з дапамогай такога настаўніка з досведам, як **Багуслаў Крышкоўскі**, вучню гэта ўдалося зрабіць.

Зрабіць – гэта адно, а вось цікава і арыгінальна падаць сваю работу – гэта зусім іншае. Што ў выступленні Жэні асабліва спадабалася кампетэнтнаму журы? Напэўна, інфармацыя пра санкі, якая зацікавіць і многіх нашых чытачоў.

### Сані з ветразем і без

Калі спытаць, якое вынаходніцтва чалавека самае старажытнае, усе, напэўна, назавуць кола. А старажытныя колы – гэта і ёсць сані! Прывязаць два пярэднія канцы жэрдак да сабакі, каня або быка, а заднія хай валакуцца па зямлі – вось і гатова.

Першая такая фурманка насіла назву валакуша, бо не мела палазоў.

Сані з загнутымі палазамі з'явіліся ўпершыню на поўначы Еўразіі дзесьці чатыры-пяць тысячагоддзяў таму. У Расіі такія сані называлі "лебедзямі" – з-за падабенства з гэтай птушкай.

Самымі простымі сялянскімі санямі лічылі санкі і развалкі. У заможных людзей яны нагадвалі мадэль карэты, з высокімі бартамі, каб закрыцца ад бруду і пылу.

Якіх толькі разнавіднасцяў санак не стваралі за гісторыю чалавецтва! Табаган – сані без палазоў. Нарты – сані з палазамі.

У 18 стагоддзі карысталіся папулярнасцю сані з ветразем – на іх ладзілі прагулкі па ледзяных азёрах. У пачатку 20 стагоддзя пачаліся спробы стварэння санак з механічным рухавіком, якія развівалі хуткасць да 70 кіламетраў у гадзіну.

**Старым крэслам, якія хацелі ўжо выкідваць, знойдзецца добрае прымяненне. Бо менавіта з іх і ўзнікла ідэя зрабіць дзіцячыя санкі.**




Фота забяспечана Аленай МАЧЭЛЬ.

Чарцёж пераможных санкаў.

### Санкі вырабіў з падручных матэрыялаў

Вывучыўшы магчымасці выкарыстання другасных рэсурсаў і адходаў прамысловай вытворчасці, Жэня вырашыў змайстраваць санкі з падручных матэрыялаў.

Спачатку пад кіраўніцтвам Багуслава Станіслававіча зрабіў эскіз і падабраў неабходныя матэрыялы. Затым распрацаваў графічную і тэхналагічную дакументацыю. І толькі на трэцім этапе вырабіў санкі, апрабаваў іх і ліквідаваў недахопы. У канцы адзобіў санкі і афомію дакументацыю. Вось санкі і гатовыя!

Пра такі транспарт мараць многія дзеці, бо катанне на санках – гэта адна з самых любімых дзіцячых забаў. А як яны патрэбныя мамам для зімовых прагулак з маленькімі дзецьмі!

Хоць набыць санкі цяпер не праблема, але такі дзіцячы транспарт, зроблены сваімі рукамі, нельга параўнаць з крамным. Па-першае, яны больш трывалыя і зручныя для малога. Падругое, гэта яшчэ і эканомія грошай у сям'і. Акрамя таго, сын або дачка будуць ганарыцца ўменнем свайго таты або старэйшага брата, што немалаважна ў выхаваўчым працэсе. Вось, здаецца, простая рэч, а колькі карысці прыносіць у сям'ю. Дарэчы, менавіта родныя і падтрымалі Жэню з яго праектам.

**Алена МАЧЭЛЬ, настаўніца вілейскай гімназіі №1 "Логас".**

КОНКУРСЫ

# Найлепшым хлопцам "Зубраняці" раздалі пуцёўкі ў замежжа

МЯДЗЕЛ

**Містара "Зубраня-2015" упершыню выбралі 25 сакавіка ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчага цэнтры.**

Удзельнічалі шэсць хлопцаў. Да фіналу адбыліся конкурсы фота і эрудыцыі. На сцэне ж удзельнікі паказалі відэавізітоўкі, творчыя нумары. Быў яшчэ конкурс "Сітуацыя", спартыўны выхад, гранд-дэфіле са сваімі спадарожніцамі.

Усе ўдзельнікі сталі найлепшымі ў нейкай намінацыі. У інтэрнэт-галасаванні перамог настаўнік **Павел Роўба**. "Віцэ-містарам" стаў галоўны інжынер цэнтра "Зубраня" **Аляксей Швед**. А перамог у конкурсе **Сяргей Сечын** – выхавальнік аднаго з корпусаў.

– Калі абвясцілі пра перамогу, не адразу гэта ўсвядоміў. Але, натуральна, узрадаваўся, – кажа **Сяргей Сечын**.

Лічыць ён, што, напэўна, журы ўдалося пакарыць сваёй усмешкай.

**– Што было найлягчэйшым і найскладанейшым у конкурсе?**

– Самае лёгкае было – гэта прыняць рашэнне аб удзеле. А самае складанае – зрабіць творчы нумар. Гэта быў танец са сваёй дзяўчынай. Да апошняй хвіліны нумар планаваўся іншы, але проста не хапіла часу на падрыхтоўку. Давялося замяніць на больш просты, але, як аказалася, – не менш варты.

Прызы для ўдзельнікаў конкурсу падрыхтавалі прыстойныя. Напрыклад, "Віцэ-містэра" ўзнагародзілі турыстычнай пуцёўкай па Усходняй Еўропе, а пераможца адправіцца ў заходнееўрапейскія краіны.

Яшчэ адным падарункам для конкурсантаў і іх дзяўчат стала экскурсія ў этнакультурны комплекс "Наносы-Навасельле" ля Нарачы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Другое месца на рэспубліцы за працу па ласасёвых

МЯДЗЕЛ

У Мінску 22 сакавіка прайшоў рэспубліканскі этап Стакгольмскага юніёрскага воднага конкурсу.

Праца дзесяцікласніка гімназіі-інтэрната Мядзела **Дзяніса Марача** падзяліла другое месца і адзначаная дыпломам другой ступені.

Усяго на конкурс прадставілі 115 прац, што накіраваныя на прадухіленне забруджвання вады, вывучэнне водных рэсурсаў, вырашэнне праблем пітной вады.

Дзяніса адзначылі за працу "Кармавая база і экалагічны стан рэк, якія выкарыстоўваюцца для нерасту прахадных ласасёвых рыб у Беларусі".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У Ашмянах пройдзе конкурс прыгажосці сярод мужчын

АШМЯНЫ

18 красавіка ў раённым Цэнтры культуры ў сем гадзін вечара пройдзе шоу-праграма "Містэр Ашмяны".

Заяўкі маглі падаваць маладыя людзі да 31 года. Пакуль ёсць восем заявак. Самы малады ўдзельнік – навучэнец гімназіі, самаму старэйшаму – 28 гадоў.

Падчас першага конкурсу гледачы пазнаёмяцца з удзельнікамі, маладзёны пакажуць паўсядзённае адзенне.

– Другі конкурс дасць магчымасць прадэманстраваць свае творчыя здольнасці, – расказвае мастацкі кіраўнік раённага Цэнтра культуры **Ірына Янчуковіч**. – Падчас рэпетыцыі мы высветлім, якія нумары падрыхтавалі ўдзельнікі, паспрабуем іх удасканаліць.

У трэцім конкурсе маладыя людзі прадэманструюць дзелавы стыль адзення.

Першая рэпетыцыя пройдзе 7 красавіка.

**Галіна СІНІЦА.**

# Археолаг: "На Ашмяншчыне пахаваныя апошнія язычнікі Еўропы"

АШМЯНЫ

**– Уявіце сабе, раскопваеш могільнік 13 стагоддзя, а там астанкі воінаў, якія загінулі ад мангольскіх стрэлаў.**

А цяпер уявіце, дзе Гальшаны, а дзе тыя стэпы знаходзяцца. Тысячы кіламетраў, а даходзілі сюды, у нашы лясы і балоты. І мясцовае насельніцтва гінула, але абаранялася. Калі трымаеш у руках стралу, ад якой 600 гадоў таму загінулі воіны, мурашкі па скуры, – распачынае свой аповед археолаг **Яўген Уласавец.**

Раскопкамі ў Ашмянскім раёне Яўген займаецца ад 2007 года. Спачатку капаў у якасці валанцёра ў свайго сябра навуковага супрацоўніка інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі **Паўла Кенько.** Потым, пасля заканчэння гістарычнага факультэта БДУ, а затым магістратуры і аспірантуры, уладкаваўся ў Інстытут гісторыі НАН Беларусі і з 2012 года стаў праводзіць уласныя даследаванні.

Асноўная сфера інтарэсаў – балцкія пахавальныя помнікі 13-15 стагоддзяў, перыяд, калі стваралася і фарміравалася Вялікае Княства Літоўскае.

**– У чым адметнасць балцкіх пахавальных помнікаў?**

– Мясцовае літоўскае насельніцтва да таго, як яго ў 1387 годзе хрысціў вялікі князь літоўскі, а на той момант ужо і кароль польскі Ягайла, хавала сваіх нябожчыкаў паводле абраду трупапалення. Гэта задакументавана ў многіх пісьмовых крыніцах як адносна простых людзей, так і ў адносінах да знакамітых асоб. Так, напрыклад.

**Бацьку Ягайлы, вялікага князя Альгерда, у 1377 спалілі на вогнішчы разам з 12 баявымі конямі, срэбным поясам і іншымі рэчамі, якімі ён карыстаўся пры жыцці.**

Першую жонку Вітаўта таксама спалілі ў Айраголе (тэрыторыя Жамойці). У Літоўскай рэспубліцы вядома больш за сотню падобных могільнікаў, яны добра вывучаныя. У нас жа беларуска-літоўскім памежжам ніхто спецыяльна ніколі не займаўся, а калі і займаўся, то больш раннімі перыядамі – 5-8 стагоддзямі.

**– Якія рэчы ўдавалася знайсці?**

– Я капаю грунтавыя могільнікі з крэмацыяй. А ў іх сустракаюцца вельмі розныя рэчы. Для археолага важная інфармацыя, якую нясе рэч або абломак рэчы. Часам невялікі фрагмент нейкага рэдкага або незвычайнага вырабу нясе больш інфармацыі, чым цэлы і прыгожы, але распаўсюджаны. Паколькі ён дазваляе ўдакладніць даціроўку археалагічнага помніка, больш аб сацыяльна-эканамічным развіцці, гандлёвых сувязях альбо праліць святло на пытанні этнічнага плана.

Ашмянскія могільнікі – гэта пахаванні фактычна апошніх язычнікаў у Еўропе.

**У могільніку было прынята класці ў магілу памерламу ўсе рэчы, што атачалі яго пры жыцці, таму знаходкі прадстаўлены ўсімі катэгорыямі: зброяй (сякеры, дзіды), рыштункам коннікаў (шпоры, дэталі конскай збруі), бытавымі прадметамі, упрыгожваннямі і элементамі адзення (фібулы, бранзалеты, гузікі) і іншае.**

**– Якой знаходкай ганарыцеся больш за іншыя?**

– Нягледзячы на тое, што знаходзіў шмат усяго цікавага, больш за ўсё запомніўся мангольскі наканечнік стралы ў пахаванні па абрадзе крэмацыі Гальшанскага могільніка. Гэта знаходка наўпрост адсылае нас да летапісных звестках аб паходах мангола-татараў на Літву ў 1270-х гадах і дазваляе звязаць у адно цэлае гісторыю і археалогію.



Фота забяспечана Віктарам ЖУКОМ.

Археолаг Яўген Уласавец, на пярэднім плане, падчас раскопак на Ашмяншчыне. 2013 год.

## Славяне насялілі Ашмяншчыну толькі ў 10 стагоддзі

– Ашмяншчына цікавая яшчэ тым, – працягвае Яўген, – што ў 13-14 стагоддзях яна была ўсходняй ускраінай так званай "летапіснай Літвы", якая стала ядром Вялікага Княства Літоўскага. У этнічным плане тэрыторыя Ашмянскага раёна практычна нічым не адрозніваецца ад тэрыторыі Паўднёвай, Усходняй і Цэнтральнай Літвы. Славяне праніклі на тэрыторыю Ашмянскага раёна толькі ў канцы 10 стагоддзя, па ўсёй верагоднасці падчас паходаў на Літву і яцвягаў кіеўскіх князёў Уладзіміра Святаслававіча і яго сына Яраслава. Яны знішчылі старыя балцкія крэпасці і на іх месцы заклалі свае, сфармаваўшы паблізу іх паселішча са змешаным балта-славянскім насельніцтвам. Але сама сельская мясцовасць, за выключэннем гэтых некалькіх крэпасцяў, была па-ранейшаму населена балтамі. Яны з цягам часу, паступова, праз культуру і мову, асіміляваліся славянамі.

**– Хто дапамагае вам у раскопках?**

– Раскопкі даволі сціплыя па плошчы, капаю з калегам і блізкімі сябрамі. Многія з маіх сяброў займаюцца ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй ВКЛ 13-14 стагоддзя, і ўдзел для іх у раскопках – выдатны спосаб убачыць на свае вочы рэканструюемыя імі прадметы.

**– Куды дзеяце знойдзеныя рэчы?**

– Знаходкі перадаюцца ў музеі. У прыватнасці, знаходкі за 2012 год з аднаго грунтавога могільніка, што месціцца каля Каменнага Лога, аддалі ў Ашмянскі раённы краязнаўчы музей.

**– Вы нарадзіліся ў Маладзечне. А чаму не даследуеце Маладзечаншчыну? Нецікава ці яшчэ не прыйшоў час?**

– Маладзечанскі раён даволі перспектыўны, але мала вывучаны. Каб з нуля падняць яго, трэба вельмі шмат сіл, сродкаў і часу.

**У Маладзечанскім раёне планую праводзіць у далейшым работы, бо ёсць некалькі цікавых паселішчаў 13-15 стагоддзяў. Шмат вядомых у 14-15 стагоддзях баярскіх родаў мелі свае родавыя гнёзды на тэрыторыі раёна, а яны ўяўляюць вялікую цікавасць у археалагічных і культурных адносінах.**

Сёлета вандроўкі па Ашмяншчыне Яўген працягне. На пытанне, чаго чакае ад новых падарожжаў, адказаў, што толькі новых могільнікаў, а так, што цікавіла, ужо даўно знайшоў.

**Наталля ТУР.**

## Пра сляды іншых народаў на беларускай зямлі

Яўген Уласавец падзяліўся сваімі думкамі наконт манет:

– Аднойчы я пераглядаў фатаграфіі манет, знойдзеных за апошнія пару археалагічных сезонаў у Ашмянскім раёне. Тут знаходзілі рымскія дэнарыі, дырхемы, грыўны і дэнарыі, польскія і літоўскія паўгрошы, шведскія соліды, манеты Расійскай і Германскай імперый, пфенінгі Веймарскай рэспублікі і Трэцяга Рэйха, злотыя міжваеннай Польшчы і нават літоўскія літы. На нашай зямлі паспелі пакінуць памяць аб сваёй прысутнасці літоўцы, палякі, немцы, французы, рускія, арабы, шведы, рымляне, кітайцы і нават галы.

# Як забраць рэчы продкаў, што ваявалі ў арміі Андэрса

**Рэчы многіх жаўнераў арміі Андэрса месцяцца ў Цэнтральным вайсковым архіве ў Варшаве. Нашчадкі могуць забраць памятныя рэчы, калі пацвердзяць сваяцтва.**

Маладзечанец **Віктар Голуб** падзяліўся, якім чынам можна вярнуць рэчы сваякоў. Ён падрыхтаваў спіс тых, хто паходзіў з нашага краю са спадзяваннем, што хтосьці з нашчадкаў захоча вярнуць дарагія сям'і рэчы.

Многія гэтыя жаўнеры мабілізаваліся ў 1939 годзе ў польскую армію, але трапілі ў савецкі палон. Іх арыштоўвалі і вывозілі ў выпраўленчыя лагеры. А калі пачалася вайна, ім была прапанаваная альтэрнатыва лагернаму зняволенню – служба ў польскай арміі супраць фашыстаў.

Частка жаўнераў трапіла ў войска іншым шляхам. Калі на тэрыторыю, якая была пад Польшчай, прыйшла савецкая ўлада, сяляне атрымалі падаткі, якія для некаторых аказаліся непасільнымі. За нявыплату падаткаў прыцягвалі да крымінальнай адказнасці. Каб пазбавіць усю сям'ю няшчаснага лёсу, дзеці з такіх сямей 16-18 год пагаджаліся ехаць на лесанарыхтоўкі ў Комі, Архангельск яшчэ да пачатку Другой сусветнай.

У 1942 годзе генерал Андэрс фарміраваў армію. І тыя, хто працаваў на лесанарыхтоўках, мог звярнуцца ў прыёмны пункт, калі мелі польскія пашпарты, былі этнічнымі палякамі ці атрымалі рэкамендацыю ад ксяндза. Многія выхадцы з нашага рэгіёна служылі ў Пятай Крэсавай пяхотнай дывізіі.

Ужо салдатамі арміі Андэрса жаўнеры праз Сярэднюю Азію рушылі ў Іран. Ахоўвалі нафтавыя вышкі ў Палесціне. Салдатам плацілі жалаванне. Пасля яны трапілі ў Італію, дзе іх чакалі баі з фашыстамі. Многія з іх пахаваныя на вайсковых могілках у Італіі. У дакументах у архіве можна знайсці такія звесткі.

"РГ" друкавала мемуары валожынца **Мікалая Махнача**, які падрабязна апісваў свой шлях у складзе арміі Уладзіслава Андэрса. Прачытаць іх ожна на сайце rh.by.

Усяго ў спісе 1630 жаўнераў. Многія паходзяць з Беларусі, Украіны і Расіі.

У 2005 годзе англійскі ўрад перадаў асабістыя рэчы загінулых у Цэнтральны вайсковы архіў у Варшаве.

Архіў месціцца ў раёне Стары Рэмбратаў, па адрасе: ul. Czerwonych Beretów bl. 124, 00-910 WARSZAWA, Centralne Archiwum Wojskowe. Адказны па гэтай тэме – **Ежы Сівінські**. Там жа можна знайсці поўны спіс, паводле якога зрабіў выбарку Віктар Голуб – Lista nazwich żołnierzy i oficerow, ktorych depozyty sa przechowywane w CAW.

**Наколькі вядома, па рэчы звярнуліся сваякі 53 жаўнераў. Пры звароце трэба мець даведку аб ступені сваяцтва з жаўнерам, якую заверыў натарыус. Даведку неабходна перакласці на польскую мову.**

Як распавядае Віктар Голуб, сярод рэчаў загінулых салдатаў трапляюцца фотаздымкі, нацельныя крыжыкі, неадпраўленыя лісты, сувеніры з Палесціны, якія хацелі перадаць родным, заручальныя пярсцёнкі, гадзіннікі, узнагароды. Многія з іх узнагароджаны крыжом "За Монтэ Касіна", сустракаецца нават самая ганаровая польская ўзнагарода Ордэн Virtuti Militari. У спісе некаторых звестак, напрыклад, пра год нараджэння, няма, могуць быць недакладнасці ў перадачы імя ці прозвішча.

Спіс жаўнераў арміі Андэрса, чые рэчы сваякі могуць забраць у Цэнтральным вайсковым архіве ў Польшчы:

1. Мейсак Мікалай Усціназіч, 1921 год нараджэння, вёска Алянец Смаргонскага раёна. Старшы стралец (стшэлец). 5 узнагарод, у тым ліку Virtuti Militari.
2. Жвірко Станіслаў, 1917 г.н., вёска Лебедзева Маладзечанскага раёна.
3. Усік Міхаіл Пракопавіч, 1910 г.н., вёска Зарудзічы Смаргонскага раёна. Старшы стралец. Крыж "За Монтэ Касіна".
4. Такарэвіч Тэадор Пятровіч, 1924 г.н., Мацэвічы, Маладзечна. Стралец, адна ўзнагарода.
5. Садоўскі Сяргей, вёска Талуі Маладзечанскага раёна. Артылерыст, адна ўзнагарода.
6. Слуцкі Аляксандр, 1908 г.н., вёска Маркава Маладзечанскага раёна. Стралец, адна ўзнагарода.
7. Мурашка Даніїл Леапольдавіч, 1909 г.н., Маладзечна. Стралец, адна ўзнагарода.
8. Троцкі Іван Міхайлавіч, 1916 г.н. Старшы стралец, чатыры ўзнагароды.
9. Адамовіч Георгій, 1887 г.н., Свір. Капрал.
10. Амброс Ганна Юзэфаўна, 1915 г.н.
11. Ангур Станіслаў, 1910 г.н., Валожын. Стралец, 1 узнагарода.
12. Апановіч Аляксандр, 1910 г.н., Ашмяны, в. Лучнікі. Тры ўзнагароды.
13. Балай Павел Вацлавіч, 1916 г.н., Паставы, вёска Касаўшчызна. Сапёр, 1 узнагарода.
14. Балаз Баляслаў Францыскавіч, 1919 г.н., Паставы, в. Кабыльнікі. Старшы ўлан, 1 узнагарода.
15. Баракоўскі Уладзіслаў Іванавіч, 1905 г.н., Валожын. Мінамётчык, тры ўзнагароды.
16. Барадун Іван Базыльевіч, 1911 г.н., Маладзечна. Стралец, 4 узнагароды.
17. Бралкоўскі Браніслаў, 1910 г.н., Ашмяны, в. Колтуны. Артылерыст, 1 узнагарода.
18. Бранцэвіч Альбін Іосіфавіч, 1911 г.н., Свір, в. Зоры. Стралец, 1 узнагарода.
19. Брылеўскі Аляксандр, 1916, Валожын, в. Лоск. Стралец, 1 узнагарода.
20. Бурэк Марэк, 1912 г.н., Ашмяны, в. Каравай. 1 узнагарода.
21. Быкоўскі Ісідор, 1906 г.н., Валожын, в. Градава. Стралец, 2 узнагароды.
22. Бараноўскі Іосіф, 1913 г.н., Ашмяны, в. Злоцішкі. Стралец, 1 узнагарода.
23. Батуро Ісідор Міхайлавіч, 1922 г.н., Свір, в. Зацемкі. Артылерыст, 1 узнагарода.
24. Бярнацкі Васіль Стэфанавіч, 1909 г.н. Маладзечна. Старшы сапёр, 1 узнагарода.
25. Бельскі Баляслаў Уладзіслававіч, 1909 г.н., Ашмяны, в. Заблоць. Старшы стралец, 2 узнагароды.
26. Бярняк Сяргей Тэадоравіч, 1911 г.н., Паставы, в. Кузніца. Стралец, 2 узнагароды.
27. Блажэвіч Вікенцій Феліксавіч, 1906 г.н., Ашмяны. Артылерыст, 3 узнагароды.
28. Богускі Казімір, 1911 г.н., Паставы, в. Брусы. Стралец, тры ўзнагароды.
29. Баяровіч Эдвард Каетановіч, 1914 г.н., Ашмяны, в. Дукеле. Артылерыст, 1 узнагарода.
30. Цаюн Аляксандр Аляксандравіч, 1922 г.н., Валожын, в. Мазурка. Сапёр, 1 узнагарода.
31. Царук Іван, 1906 г.н., Вілейка, в. Юнцавічы. Стралец, 1 узнагарода.
32. Халавач (Галовач) Вінцэнт Пятровіч, 1909 г.н., Маладзечна, в. Гердуцішкі. Старшы стралец.


Фота tvn24.pl

**Генерал польскай арміі Уладзіслаў Андэрс, кіраўнік польскіх фарміраванняў у Другой сусветнай вайне.**

33. Хараданёк (Хородонек) Пётр Антонавіч, 1918 г.н., Браслаў, в. Укла. 2 узнагароды.
34. Цімаховіч (Цымаховіч) Юзаф, 1910, Валожын, в. Баяршчызна. Карэкціроўшчык (дальнамершчык).
35. Цюкса (Тюкса) Мечыслаў, 1896 г.н., Свір, в. Барблішкі. 4 узнагароды.
36. Чарняўскі Браніслаў Іосіфавіч, 1921 г.н., Свір, в. Крыванось. Стралец.
37. Далецкі Уладзіслаў Іванавіч, 1914 г.н., Браслаў, в. Тамацішкі. Артылерыст, 4 узнагароды.
38. Дашчынскі Уладзіслаў Вінцэнтавіч, 1908 г.н., Паставы, в. Груздава. Стралец, 1 узнагарода.
39. Дашкевіч Уладзімір, 1909 г.н., Вілейка. Стралец.
40. Драгунскі Ігнацій Феліксавіч, 1908 г.н., Валожын, в. Селішча. Старшы стралец, 1 узнагарода.
41. Дубовік Аляксандр Гвідонавіч, 1917 г.н., Паставы, в. Навасёлкі Старшы стралец, 1 узнагарода.
42. Гаюдзіс Браніслаў, 1910 г.н., Ашмяны, в. Мілкуны. Артылерыст, 1 узнагарода.
43. Гедройць Антоній Браніслававіч, 1914 г.н., Ашмяны, в. Паляны. Артылерыст, 1 узнагарода.
44. Гіль Андрэй, 1910 г.н., Паставы, в. Сімонкі. Карэкціроўшчык.
45. Гіруць Францыск Казіміравіч, 1903 г.н., Ашмяны, в. Юрацішкі. Старшы стралец, 1 узнагарода.
46. Гіруць Вінцэнт Альбінавіч, 1904 г.н., Свір, в. Пятрышкі. Капрал, 1 узнагарода.
47. Грэскі Павел, 1910 г.н., Браслаў, в. Якубоўшчына. Стралец, 2 узнагароды.
48. Грумбіянін Францыск Антонавіч, 1911 г.н., Свір. Артылерыст.
49. Грушэўскі Уладзімір Вінцэнтавіч, 1913 г.н., Валожын, в. Мілкаўшчызна. Стралец.
50. Грышкевіч Міраслаў, 1909 г.н., Вілейка. Артылерыст.
51. Гаранін Юзэф, 1905 г.н., Вілейка, в. Цырэчкі (Цярэшкі). Артылерыст, 1 узнагарода.
52. Гарлюковіч Пётр Уладзіслававіч, 1919 г.н., Ашмяны, в. Навасады. Стралец, 3 узнагароды.
53. Гендалеўскі Генрых Іванавіч, 1919 г.н., Браслаў, в. Слабодка. Стралец, 1 узнагарода.
54. Губіцкі Васіль Іаахімавіч, 1920 г.н., Вілейка, в. Скарада. Старшы стралец, 1 узнагарода.
55. Гурштын Віктар, 1914 г.н., Ашмяны, в. Малеўшчызна. Капрал, 1 узнагарода.
56. Івашкевіч Іван Юльянавіч, 1914 г.н., Паставы, в. Вораўшчызна. Стралец, 3 узнагароды.
57. Яворскі Генрых Альфрэдавіч, 1922 г.н., Маладзечна. Стралец.
58. Юраловіч Уладзіслаў Антонавіч, 1925 г.н., Вільня, в. Бенякон. Старшы стралец.
59. Юран Стэфан, 1908 г.н., Браслаў, в. Думарышкі. Стралец, 1 узнагарода.

**Працяг прозвішчаў на іншыя літары чытайце ў наступных нумарах.**

Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ.

---

**КАЛЯНДАР**

**10 красавіка.** Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў.

***

**380 гадоў** назад (1635) памёр Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.

***

**115 гадоў** з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага (1900 – 1988), беларускага геолага, географа, эканаміста, грамадскага дзеяча, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

***

**125 гадоў** з дня нараджэння Янкі Нёманскага (сапр. Іван Пятровіч, 1890 – 1937), беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

***

**14 красавіка.** 130 гадоў з дня нараджэння Сымона Рак-Міхайлоўскага (1885 – 1938), грамадска-палітычнага дзеяча, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, публіцыста, заснавальніка і дырэктара настаўніцкай семінарыі ў Барунах (1920-1922 гг.). Нарадзіўся ў вёсцы Максімаўка, цяпер Маладзечанскі раён. Мужны змагар за свабоду свайго народа. Ахвяра сталінскіх рэпрэсій. 14 лістапада 1938 года прыгавораны да вышэйшай меры пакарання як "агент 2-га аддзела польскага генштаба". 27 лістапада 1938 года яго расстралялі ў Мінску. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1956 годзе.

***

**135 гадоў** з дня нараджэння Язэпа Дылы (Восіпа Лявонавіча,1880 – 1973), беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча.

***

**95 гадоў** з дня нараджэння Аляксея Карпюка (1920 – 1992), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**15 красавіка.** 75 гадоў з дня нараджэння Алены Таболіч, кандыдата філалагічных навук, беларускага моваязнаўцы, педагога, паэта-перакладчыка.

***

**85 гадоў** з дня нараджэння Расціслава Платонава (1930 – 2001), беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара.

***

**16 красавіка.** 75 гадоў назад (1940) памёр Адам Багдановіч, этнограф, гісторык культуры, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька Максіма Багдановіча. Пахаваны ў Яраслаўлі.

Марыя БЕРАСНЕВА.

НАМ ПІШУЦЬ

# Героі жывуць вечна. Так гэта ці не?

МАЛАДЗЕЧНА

**На днях наведаў адны і другія лебедзеўскія могілкі, дзе пахаваныя мае бацькі і дзед з бабуляй, каб прыбраць іх да святаў.**




Фота Настассі РОЎДЫ.

Алесь Цадко побач з магілай Дзмітрыя Капцюга, якога лебедзеўцы ведалі па імені Герой...

Часу хапала, і я прайшоўся, як кажуць, уздоўж і ўпоперак па апошнім прытулку маіх землякоў. І вось на самым паўднёвым ускрайку старых могілак, зарослых мінулагоднім быльнягом, стаіць непрыкметны помнік Капцюгу Дзмітрыю Піліпавічу, дзе знізу хтосьці напісаў слова "Герой".

Успомніліся парады на Дзень Перамогі, калі з сярэдзіны 1960-х гадоў вучні нашай, яшчэ старой, школы пад духавы аркестр, з рознакаляровымі шарамі, з букетамі духмянай чаромхі, якая толькі што расцвіла, ішлі калонай да помніка салдату-вызваліцелю. Тады на мітынгу найбольш запомніліся мне дзядзька **Іван Марчанкаў**, вельмі добры па натуры чалавек, страціў на вайне нагу, настаўнік гісторыі **Фама Аляксеевіч** і дзядзька **Капцюг**, якога ў нас у Лебедзеве звалі Героем. Яны былі сціплыя, не выхваляліся, не бравіравалі баявымі ўзнагародамі.

У гады вайны дзядзька Капцюг партызаніў на Вілейшчыне, пусціў пад адхон не адзін варожы эшалон, за што быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза. Ды толькі па розных прычынах на высокім узроўні гэта званне яму не зацвердзілі. Мо, з-за любові да чаркі.

Кажуць, героі не ўміраюць! Так гэта ці не, пакуль мне верыцца з цяжкасцю.

**Алесь ЦАДКО,**
**сын франтавіка,**
**Маладзечна.**



ЗДАРЭННІ

## У гульнявым клубе ў Маладзечне п'яны мужчына пагражаў касірцы пісталетам

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося 25 сакавіка каля чатырох гадзін ночы ў гульнявым клубе "Вегас" па Лібава-Роменскай.**

26-гадовы п'яны мужчына паклаў на барную стойку пісталет і накіраваў яго ў бок 37-гадовай касіркі. Яна націснула трывожную кнопку. Праз тры хвіліны прыехалі супрацоўнікі міліцыі.

Мужчыну затрымалі. Гэта жыхар вёскі Мойсічы Маладзечанскага раёна.

Пнеўматычны пісталет канфіскавалі, ён не быў зарэгістраваны. З гульнявога клуба ўзялі відэазапіс.

Маладзечанскі аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу за асобае хуліганства. За гэта пагражае абмежаванне волі на тэрмін ад трох да пяці гадоў альбо пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў.

Пра здарэнне расказаў намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў**.

**Паводле "Чалавек і закон".**

## У маладзечанскім Лядовым палацы госць з Мазыра разбіў акно і паламаў мэблю

МАЛАДЗЕЧНА.

**Здарэнне адбылося 7 красавіка. 26-гадовы жыхар Мазыра адпачываў у боўлінгу спартыўна-забаўляльнага цэнтра ў Маладзечне.**

Спусціўшыся на першы паверх, зайшоў у так званы трэнерскі пакой. Там у прысутнасці супрацоўніка Лядовага палаца разнёс кабінет: зламаў камп'ютары, паламаў мэблю, выбіў кулаком шклопакет.

– Ёсць падазрэнні на тое, што свой учынак ён зрабіў у стане наркатычнага ап'янення, – кажа старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**. – Супраць маладога чалавека ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Хуліганства".

**Наталля ТУР.**

СПАЖЫВЕЦ

## На рынку райспажыўтаварыства ў Маладзечне акцыя на ружы

МАЛАДЗЕЧНА

На рынку райспажыўтаварыства працягваюць прадаваць саджанцы і расаду кветак.

Ёсць акцыі. Калі вы купляеце чатыры саджанцы руж, пятую вам даюць у падарунак. Адна ружа каштуе 50 тысяч рублёў.

З'явіліся саджанцы вінаграду, каля 25 сартоў. Сярод іх Дамскія пальчыкі, Крымская жамчужына, Мінскі ружовы.

Саджанцы клубніц каштуюць 7 тысяч рублёў за штуку.

**Галіна СІНІЦА.**

| Назва расліны | Цана (тысяч рублёў) |
|---|---|
| грэцкі арэх | 150 |
| туя | ад 50 да 100 |
| лілея | 50 |
| лімоннік | ад 20 да 50 |
| ядловец | 30 |
| фарзіцыя і самшыт | 25 |
| крокусы | 5-10 |

ВЫСТАВЫ

## Пашпарты розных часоў паказваюць у Мядзеле

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы праходзіць выстава "Пра што раскажа пашпарт".

На ёй прадстаўленыя галоўныя дакументы, якімі ў розныя часы карысталіся жыхары Мядзельшчыны: пачынаючы ад пашпартнай кніжкі 1895 года і да сучаснага пашпарта.

Сярод экспанатаў ёсць арыгінал пашпарта часоў Першай сусветнай вайны, які выдавалі нямецкія ўлады.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВОЛЬНЫ ЧАС

# "Аддам дарма". Суполка шчодрых людзей, ці Мафія перакупшчыкаў?

МАЛАДЗЕЧНА

**Сеціва ужо даўно кішыць безліччу суполак, дзе прадаюць, мяняюць, аддаюць дарма рэчы, якія былі ва ўжыванні.**




Фота blogspot.com.

У такіх суполках можна знайсці ўсё: ад музычных інструментаў да антыкварнай мэблі, ад народных строяў да брэндавых рэчаў.

Тут прапануюць узяць у дар хатніх жывёл: котак, сабачак, хамячкоў, пацучкоў, чарапашак.

Тут можна пазычыць на вечар сумачку ці мабільны тэлефон, пакуль ваш у рамонце.

Але вось што дзіўна. Не паленаваўшыся і пагартаўшы старонку на месяц назад, можна заўважыць, што адны і тыя ж рэчы аддаюць розныя людзі.

На ўмовах ананімнасці з намі пагадзілася пагутарыць жанчына, якая "актыўнічае" ў такіх суполках даўно:

– Ды пачалося неяк нечакана. Заўважыла, што ў суполцы аддаюць вельмі прыгожыя туфлі. Я марыла пра такія. Дамовілася з гаспадыняй. Узяла шакаладку і паехала па туфлі. Забрала, а дома памерала – маленькія. Таму давялося іх зноў выкласці ў суполку. Але адна дзяўчына напісала, што гатовая іх купіць у мяне. І я падумала: а чаму б не?

> **Цяпер гэта справа займае мяне цалкам. Нешта забіраю, нешта аддаю, што лепшае, прадаю ў іншых суполках.**

Толькі, калі ласка, не называйце мяне.

Наконт таго, ці трэба штосьці браць у якасці падзякі, у саміх удзельнікаў суполкі ўзнікаюць жорсткія спрэчкі. Да аб'явы пра абмен рэчаў гаспадары часам дадаюць: аддам за нешта смачнае, памяняю на латарэйны білецік, прашу ўзамен пачак памперсаў.

Разважае ўдзельніца суполкі **Аксіння**:

– У групу ўступіла летам 2014 года. Чакалася папаўненне ў сям'і, а ў сувязі з кусачымі цэнамі на дзіцячыя тавары шукалі што-небудзь таннае, але не зусім старое. Пасля дома задумалі рамонт, перастаноўку і таксама сталі ў суполку прапаноўваць і мэблю, і вопратку, і посуд. Пакуль ніякіх сур'ёзных праблем не было.

> **Была гісторыя з бежанцамі з Украіны, якія кляліся, што ўсё забяруць, а ў выніку сталі круціць носам. Цяпер запісы пра тое, што бежанцы нешта возьмуць у дар, абыходжу міма.**

Быў нядаўна наезд з боку аматара халявы, які казаў, што няправільна ў суполцы "Аддам дарма", дзе ўсё абменьваецца або аддаецца, прасіць за рэчы што-небудзь смачнае ці яшчэ што. Ну калі рэч у добрым стане, то чаму б і не папрасіць за яе што-небудзь дзіцячі або сабе да гарбаты?

Але сустракаюцца розныя людзі: нядаўна выкідвала камбінезон на хлопчыка, абсалютна новы, за пачак памперсаў (130 тысяч). І адна дзелавая дама напісала гнеўны ліст, маўляў, камбез ношаны, а вы памперсы хочаце, лепш бы проста аддалі. А так група добрая, карысная.

Удзельніца **Юля** прызнаецца, што рэчы толькі аддае:

– Я шапагалік. Шмат рэчаў скупляю і шмат чаго не нашу. А яшчэ пасля родаў накупіла рэчаў, але хутка вярнула сваю ранейшую вагу і яны сталі непатрэбнымі, вялікімі. А зараз разгружаю шафу, вось і аддаю ўсё, што мне не трэба.

## Самыя незвычайныя аб'явы на сайце

Перагледзеўшы шмат допісаў людзей, можна ўбачыць шмат цікавага. Мы склалі спіс рэчаў, якія нам падаліся цікавымі ці незвычайнымі:

1. Прыму ў дар 16-кілаграмовую гіру
2. Прыму ў дар стужкі для сватоў
3. Прыму ў дар пілотку
4. Прыму ў дар матрошку
5. Дзве манеткі па 1 еўра абмяняю на пачак макароны
6. Прыму ў дар сем пустых бутэлек ад гарэлкі
7. Аддам бараніну
8. Аддам дзірку ад абаранка
9. Прыму ў дар хадулі
10. Аддам дарма шпаргалкі па матэматыцы
11. Вазьму ў дар фялкі, пажадана з коранем
12. Пустыя круглыя каробачкі ад "Рафаэлы". Прыму ў дар
13. Прыму ў дар цацкі для сабакі
14. Аддам дарма кабачкі
15. Аддам дарма скрыпку
16. Людзі, можа, у каго ёсць белая фарба ў балончыку, нам проста трэба напісаць на асфальце
17. Аддам сабачую будку

Дарэчы: толькі за сакавік у суполцы аддалі, абмянялі і прынялі ў дар прыкладна 1868 рэчаў.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ І ВІЛЕЙЦЫ

## Што вы робіце з непатрэбнымі рэчамі?



**Яўген Часноўскі, прараб, Вілейка:**

– Заўсёды знаходзіцца нешта непатрэбнае, калі прыбіраю ў кватэры. Тады вязу гэта да бабулі альбо на дачу. А раптам спатрэбіцца.



**Алена Высоцкая, настаўніца, Вілейка:**

– Дрэнныя рэчы выкідаем, а калі яны ў добрым стане, то складаем на гарышчы. Яшчэ могуць і спатрэбіцца.



**Вольга Сяліцкая, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**

– Калі рэчы ў нармальным стане, то захоўваем дома, а раптам спатрэбяцца, часам аддаём знаёмым. А калі дрэнныя, то выкідаем.



**Людміла Яцкевіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Калі раблю генеральную ўборку, то знаходжу непатрэбныя рэчы. Адразу іх выкідаю. Адзенне, якое не нашу, складаю ў пакет і стаўлю каля сметніцы – можа, каму спатрэбіцца.



**Алена Казакова, пенсіянерка, Маладзечна:**

– Звычайна непатрэбныя рэчы альбо аддаю знаёмым, альбо складаю ў пакет і стаўлю на вуліцы каля сметніцы. Ведаю, што рэчы забяруць. А ўвогуле не люблю накапліваць непатрэбнае.



**Аляксандр Швайкоўскі, сантэхнік, Маладзечна:**

– Смецце выношу кожны дзень. А добрыя рэчы, але якія самім не трэба, аддаём. Звычайна гэта дзіцячае адзенне, цацкі.



**Яўгенія Шыловіч, пенсіянерка, Маладзечна:**

– Калі знаходжу непатрэбныя рэчы, то звычайна іх аддаю іншым, альбо перараблю.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

АСОБА

# Саша Герасіменя: "Езджу ў метро па праязным таты"

МАЛАДЗЕЧНА

**Што мы ведаем пра Аляксандру Герасіменю? Вядомая беларуская плыўчыха, двухразовая віцэ-чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў у Лондане, чэмпіёнка свету. І, мабыць, усё.**

У гэтым сэнсе чытачам "Рэгіянальнай газеты" пашанцавала, бо ў вас ёсць магчымасць пазнаёміцца з Сашай з зусім іншага боку, убачыць яе, так сказаць, без макіяжу.

– У дзяцінстве я сур'ёзна займалася танцамі. Нават паспела з'ездзіць на "Славянскі базар".

Калі вучылася ў чацвертым класе, пайшла мода на кароткія стрыжкі. Усе аднакласніцы тут жа састрыглі свае косы. Я вагалася, вагалася і таксама рашылася. Прыйшла на танцы з кароткай стрыжкай, а выкладчык кажа: "Ну раз ты з кароткімі валасамі, то будзеш танцаваць замест хлопчыка". Мабыць, гэта было маё апошняе наведванне танцаў. Як і адзін з апошніх эксперыментаў з прычоскай. З тых часоў толькі доўгія валасы і толькі плаванне.

## "Перад стартам туплю і фарбую пазногці"

– За некалькі тыдняў да спаборніцтваў лаўлю сябе на тым, што пачынаю тупіць. Каб супакоіць нервы, фарбую пазногці. За некалькі дзён да старту збіраюся і канцэнтруюся. Ніколі сабе не прыдумвала прыкмет і талісманаў. Ну а раптам згублю ці зламаю той талісман, што тады? На старт не выходзіць? У дзень спаборніцтваў, вядома, хвалююся. Калі плыву кароткую дыстанцыю, нават падумаць ні аб чым не паспяваю. Калі ж заплыў на 200 метраў, тут ужо плыву і за маму, і за тату, і за ўвесь зямны шар.

**У 2012 годзе Аляксандра ўзнагароджаная ордэнам Айчыны III ступені**

Сашы не вельмі падабаюцца пытанні ад журналістаў, ці задаволеная яна першым месцам, перамогай?

– Гэта няправільныя пытанні, для мяне важней пачуць, ці задаволеная я сваім вынікам. Дык вось, на чэмпіянаце ў Іспаніі (у сакавіку Аляксандра стала двойчы чэмпіёнкай Іспаніі) вынікам я не задаволеная.

**– Як ставіцеся да ўзнагарод? Часта пераглядаеце?**

– Ды не, даўно не пераглядала. Захоўваю дома ў шуфлядках. Ой, дарэчы, трэба паглядзець, раптам ужо хто скраў, дома ж гасцей шмат бывае (смяецца). Памятаю алімпійскі медаль, прыгожы быў. З Чэмпіянату свету памятаю, прыгожанькі такі, са стразікам пасярэдзіне. Я наогул да рэчаў не прывязваюся, а да людзей – так.

## "Улюблялася ў лапавухіх і крываногіх"

– Па натуры я ўлюблівая, адкрытая і таварыская. Калі была меншая, заўсёды на спаборніцтвах выбірала сабе прадмет кахання. І ўсе спаборніцтвы праходзілі ва ўздыхах і позірках. Прычым, мае фавары ты зусім не былі пісанымі прыгажунамі, такія недарэчныя, лапавухія і крываногія. Здаралася, што і расчароўвалі людзі.

**– І што тады робіце?**

– Выдаляю з сяброў у інтэрнэце (смяецца).

**– Вы актыўны карыстальнік сеціва?**

– У мяне ёсць акаўнты ў сацсетках. Я сама і групу пра сябе б вяла, каб мела дастаткова часу. Мне цікава гутарыць з людзьмі. Бывала, што і сустракалася ў жыцці, пазнаёміўшыся па перапісцы. З дзеткамі, што займаюцца плаваннем, кантактую, адказваю на іх пытанні. А сустрэўшыся на спаборніцтвах, магу і шапачку падарыць. Хаця не, цяпер не падару.

**Нам у 2007 годзе выдалі шапачкі, дзве штукі. Шапачкі падобныя на гаршчок, але такія, як трэба. Не кароткія, і на вочы не налазяць. І цяпер у мяне ўсе клянчаць гэту шапачку. А яна ў мяне засталася адна. Таму не дару.**

Аляксандра расказала, што носіць дзве шапачкі. Пад адну хавае валасы, наверх надзявае акуляры. Потым другую, каб акуляры не звальваліся. Важна, каб верхняя шапачка закрывала ніжнюю.

## "Пытанні пра замужжа мяне закалёбываюць"

Аляксандра сёлета святкуе 30-годдзе. А нарадзілася яна 31 снежня ў Мінску.

– Свой дзень нараджэння люблю, таму што ўсё жыццё на яго атрымоўваю два падарункі. І віншуюць мяне двойчы. Днём 31 снежня тэлефануюць павіншаваць з днём нараджэння, а бліжэй да апоўначы – з Новым годам.

На пытанне, як яна спраўляецца з крызісам 30-ці год, Саша адказала:

– Заўважыла, што замест малочнага шакаладу палюбіла горкі. А так усё. Больш ніякіх зменаў у сабе не заўважаю. Наконт узросту, мне часта задаюць пытанне: "Вам 29 год, а вы не замужам і дзяцей няма". Мне заўсёды хочацца адказаць: "Якая вам справа да майго асабістага жыцця?" Усё будзе, як будзе. Тут галоўнае разумець, чаго ты хочаш насамрэч. І лёс прывядзе туды, куды трэба. А калі табе добра ад таго, што ты робіш, значыць, усё робіш правільна.

## "Пасля Алімпіяды я сыходжу ва ўсё цяжкія"

Да 2016 года расклад Аляксандры распісаны па хвілінах.

– Я не магу сабе дазволіць скокнуць з парашутам, пакатацца на горных лыжах ці на каньках. Не магу ў выхадны дзень напіцца з сябрамі, таму што ў мяне назаўтра трэніроўка. Я прапушчу трэніроўку, а мой сапернік яе не прапусціць, а гэта значыць, што я ўжо адстала ад яго на цэлую трэніроўку. Вось у жніўні 2016 года (закончыцца Алімпіяда 2016 у Бразіліі) я сыходжу ва ўсе цяжкія!

Па прычыне сваёй занятасці Саша не можа наведаць турнір па плаванні "Асенні марафон" у Маладзечне, спонсарам якога з'яўляецца.

– Мне прапанавалі некалькі гадоў таму стаць спонсарам турніру, я, вядома, пагадзілася, але прыехаць самой не атрымоўваецца, таму што турнір ладзіцца восенню, калі ў мяне самой вельмі насычаны трэніровачны працэс. Прапаную арганізатарам перанесці турнір і зрабіць яго "Зімнім марафонам", я з задавальненнем прыеду падтрымаць маладых спартсменаў.









Падчас размовы Саша многа смяялася і ўвесь час жэстыкулявала.

## "Я нарадзілася ў сваёй краіне"

– Я люблю сваю краіну. Тут у мяне сваякі, шмат сяброў. Я часта бываю за мяжой і перыядычна ўяўляю, што вось, напрыклад, жыла б у Францыі. І разумею, што нідзе за мяжой жыць не хачу і не змагла б. Ёсць думкі паехаць на які год, але не трэніравацца, а каб папрактыкавацца ў мове. Мне падабаецца Беларусь. І я ўпэўненая, што нарадзілася ў сваёй краіне.

Старонку падрыхтавала



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

## Бліц-апытанне Аляксандры Герасімені

**– Калі шакалад, то...**

– Упэўненая, што шакалад павінен быць бельгійскім, але і "Алёнкай" не пагрэбую.

**– Калі від транспарту...**

– У Мінску езджу на метро па татавым праязным. Людзі ў метро пазнаюць, некаторыя вітаюцца.

**– Шопінгтэрапію практыкуеце?**

– Як усе дзяўчаты. Не магу сказаць, што я "шмотачніца", але некалькі рэчаў, якія ні разу не апранала, у шафе ёсць. А так купляю нешта маленькае і карыснае. Чарговы крэм, напрыклад.

**– Хлорка басейна скуры і валасам не шкодзіць?**

– Канешне, шкодзіць. Два разы ў дзень мажуся крэмамі і карыстаюся маскамі. Аднойчы трэніраваліся ў Бабруйску. А там вада з іржой. Дык мы пасля гэтых збораў усёй камандай вярнуліся аднолькава рыжымі.

**– Што сапернікі з іншых краін пытаюцца пра Беларусь?**

– Я ўвогуле бачыла мала сапернікаў, якія б усміхаліся і распытвалі пра краіну. Амерыканцы лічаць, што Беларусь – гэта недзе ў Афрыцы. А многія ведаюць нашу краіну – і гэта прыемна.

# Камент-эксперт

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### "Забудова" абвясціла аб банкруцтве: прадпрыемства ўвайшло ў працэс санацыі

Я працую на "Забудове". Вядома, не лепшыя часы... Прастаялі ў студзені-лютым. Але да вясны ўжо лепш. Начальства кажа, што ў красавіку лёс наш вызначыцца – суд будзе. Цяжка не толькі нам, рабочым, але кіраўніцтва не адварочваецца, збірае нас. Я на лепшае спадзяюся. ***Раман.***

### З'явіліся запалкі з гербамі Маладзечна, Валожына, Вілейкі, Мядзела

Чарговы раз пачну нуд. Але не зашкодзіла б надрукаваць гэтыя запалкі на яшчэ адной дзяржаўнай мове. Ды каму яно патрэбна ўжо. ***Андрэй.***

### Ананімныя алкаголікі: Як працуе, не ведаю, але гэта проста цуд, таму што я цвярозы!

АА і праграма 12 крокаў рэальная магчымасць справіцца з праблемай залежнасці і сузалежнасці. На жаль, нашы суайчыннікі не ведаюць пра гэта і выбіраюць сумніўныя метады кадзіравання, якія, дарэчы, у Еўропе і Амерыцы забароненыя законам, таму што маюць разбуральныя наступствы для асобы. ***Марына.***

### Запрашаем прыняць удзел у абмеркаванні аварыйных дарог

Мяне турбуе стан вуліцы Меліярацыйнай. Асфальт там паклалі ў 1983 годзе. З таго часу яе ніколі не рамантавалі. Ад асфальту і следу не засталося. Звярталіся па дапамогу ў "Камунальнік", але і летась далі адказ, і сёлета, што з-за недахопу сродкаў рамантаваць не будуць. Але калі тыя сродкі з'явяцца!? А нам хадзіць па ёй кожны дзень. Не адзін чалавек ужо ногі пакалечыў з-за гэтых ямаў. А дзеці ў садок ходзяць. Як дождж пройдзе, дык бацькі ці бабулі вярхом на сабе іх носяць, бо дзе малым стаць, праз верх жа гразі набяруць у абутак. Ды і сам кожны раз плюешся, калі ідзеш на прыпынак, прыедзеш на работу, а ў цябе ўвесь абутак у гразі. А як суха, дык ад пылу задушыцца. Гэта проста нейкі жах! Людзі! Дапамажыце! ***Марыя.***

### "Не хапіла пяці хвілін, каб дайсці дадому". Мужчына загінуў каля відэасалона ў Маладзечне вечарам у пятніцу

Сумна, што не ўдалося выратаваць жыццё чалавеку. Яшчэ зусім малады. Няхай зямля яму будзе пухам. Але вельмі добра, што людзі не прайшлі міма, а спрабавалі дапамагчы. Гэта высокая шкала чалавечнасці. ***Эва.***

### Чаму вы ніколі не знойдзеце айфон у батоне

Чаму нашы людзі так усяго баяцца? Ад гэтага страху яны перасталі быць свабоднымі, раскаванымі, на іх тварах няма ўсмешкі, быццам над імі увесь час вісіць дамоклаў меч. Людзі! Вучыцеся радавацца жыццю і трагедыю ператварайце ў камедыю. ***EVA.***

### Маці пяцярых дзяцей Кацярына Міхайлоўская атрымала ордэн Маці

...Няхай між вамі заўжды будуць любасць і каханне, еднасць і мір, гонар і пашана, здароўе і дабрабыт. Няхай назаўсёды і нязгасна з вамі будуць веліч пяшчоты іваладарства. А здрады і разлады, варожасць, зайздрасць ды злосць, журба і самотнасць, жах ды бяда назаўжды сыдуць. ***Чытач.***

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | | | | | | 6 |
| 4 | 8 | 2 | | 5 | | | 3 | |
| | | 1 | | | 8 | | 5 | |
| | | 9 | 5 | 8 | | 3 | | |
| | | | | 1 | | | | |
| | | 7 | | | 9 | 4 | 1 | |
| | 9 | | 8 | | | 4 | | |
| | 2 | | | 7 | | 8 | 9 | 3 |
| 1 | | | | | | 6 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі "**Чарадзей раўнавагі. Таямніца Сухаравай вежы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 красавіка – у 12:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды "**Энні**" (ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 красавіка – у 14:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Прывід**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
11 красавіка – у 16:30
14 красавіка – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (Расія, Украіна, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
10, 15 красавіка – у 17:00
12 красавіка – у 16:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
11 красавіка – у 18:50
12 красавіка – у 21:20
Цана білета: 3 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, 2015)
10, 13, 14, 15, 16 красавіка – у 19:20 (цана білета: 55 000 рублёў)
10, 11, 13, 14, 15 красавіка – у 22:00 (цана білета: 60 000 рублёў)
11 красавіка – у 18:50
12 красавіка – у 18:40; 21:20 (цана білета: 55 000 рублёў з 16 год)
13 красавіка – у 17:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя, "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
16 красавіка – у 17:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Запрашаем у рай**", (ЗША, 2014, з 16 год)
16 красавіка – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Гэта твой дзень**" (Расія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
10 красавіка – у 16:30 (цана білета: 15 000 рублёў)
11, 12 красавіка – у 17:00 (цана білета: 20 000 рублёў)

Анімацыя "**Чароўны лес**" (Францыя, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
11, 12 красавіка – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
13, 14, 15, 16 красавіка – у 21:00
Цана білета: 3 000 рублёў

Трылер, прыгоды "**Чорнае мора**" (Расія, ЗША, 2014, з 16 год)
10, 13, 14, 15 красавіка – у 21:00
11 красавіка – у 21:30
12 красавіка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Белы Бог**" (Германія, Швецыя, Венгрыя, 2014, з 16 год)
10, 14 красавіка – у 18:30
11 красавіка – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фантастычны экшн-трылер "**Перавага**" (ЗША, Кітай, 2014, з 16 год)
12 красавіка – у 21:00
15 красавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Джон Уік**" (ЗША, Канада, 2014, з 16 год)
16 красавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама "**Яшчэ адзін год**" (Расія, 2013)
16 красавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Абяцанне**" (Францыя, Бельгія, з 16 год)
10 красавіка – у 17:30
11 красавіка – у 18:00
12 красавіка – у 19:00
15 красавіка – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастыка, драма "**Воблачны атлас**" (ЗША, з 16 год)
10 красавіка – у 19:30
11 красавіка – у 20:00
12 красавіка – у 17:00
15 красавіка – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Бабай**" (Украіна, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 красавіка – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, з 16 год)
16 красавіка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік, трылер "**Рэйд 2**" (Інданезія, з 18 год)
16 красавіка – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Баявік, трылер "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, з 16 год)
10, 15 красавіка – у 18:00, 21:00
11, 12 красавіка – у 19:00, 22:00
16 красавіка – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі "**Чарадзей раўнавагі. Таямніца Сухаравай вежы**" (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 красавіка – у 12:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя "**Энні**" (2D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 красавіка – у 14:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (2D, Расія, Украіна, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
11, 12 красавіка – у 16:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Поўнае ператварэнне**" (2D, Расія, з 16 год)
16 красавіка – у 18:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Казка пра чырвоную стужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
16 красавіка, чацвер, – у 12:40

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
14 красавіка, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
16 красавіка, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль, прысвячаецца 70-годдзю савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне)
17 красавіка, пятніца, – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**
*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by http://theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП (10-16 КРАСАВІКА)

**Авен.** Дзейнічайце, каб знайсці мэту ў жыцці. Яна не знойдзе сябе сама. Дапамажыце ёй у гэтым і рабіце ўсё магчымае, каб адшукаць мэту.

**Цялец.** Каб сапраўды пачаць новае жыццё, трэба пазбавіцца ад таго, што цягне назад. Проста яго адпусціце. І не шкадуйце таго, што было.

**Блізняты.** Удача ўвесь гэты месяц будзе ісці побач з вамі. Сачыце за тым, каб яна не закружыла вам галаву і не прытупіла пільнасць. Бо некаму, можа, з зайздрасці, захочацца спусціць вас з нябёс на зямлю.

**Рак.** Ідзіце сваім шляхам і нічога не бойцеся. Памятайце, што выбар дзеянняў і прыняцце рашэнняў заўсёды застаецца за самім чалавекам.

**Леў.** Цаніце тых, хто вас любіць. Не крыўдзіце іх, не сварыцеся. Вы ж не ведаеце, як можа развесці вас жыццё. Вы зробіце нейкі непрыстойны ўчынак і такімі застаняцеся ў іх памяці.

**Дзева.** Будуць задаволеныя практычна любыя кар'ерныя намеры. Асноўнай перамогай у гэты перыяд стане дасягненне недатыкальнасці. А яшчэ вам захочацца цішыні і спакою.

**Шалі.** Вы ўсё перажываеце, сумняваецеся, ці правільна зрабілі, ці правільнае рашэнне прынялі. Ад гэтага псуецца настрой. Не перажывайце, будзьце ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, і ўсё атрымаецца.

**Скарпіён.** Калі жадаеце дабіцца нечага ад каханага свайго, шукайце абходныя шляхі. Настойлівасць тут не дапаможа.

**Стралец.** Не дазваляйце свайму меланхалічнаму настрою валодаць вамі. Ужо раскрываюцца такія перспектывы, што аж дух будзе займаць.

**Казярог.** Займіцеся арганізацыяй вольнага часу сваіх блізкіх. Паклапаціцеся аб іх камфорце і эмацыйным стане.

**Вадалей.** Як толькі вы ўладкуецеся ва ўтульным месцы з жаданнем нічога не рабіць, то абставіны тут жа прымушаюць рэзка змяніць планы. Але ўсё, што ні робіцца, – да лепшага.

**Рыбы.** Усё, што вы робіце, будзе заканчвацца, калі не аглушальным поспехам, то сціплай перамогай над сабой.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27



## НАДВОР'Е

### 11 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +12 | | +4 / +15 | | +9 / +16 | | +4 / +15 | |
| | 745 | ↘ 5 | 746 | → 4 | 745 | → 4 | 738 | ↗ 5 |
| Вільня | +4 / +8 | | +5 / +12 | | +9 / +10 | | +2 / +6 | |
| | 755 | → 3 | 756 | → 5 | 755 | → 7 | 747 | ↘ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.19
Захад 20.05
Даўжыня дня 13.46

Усход 2.12
Захад 10.53
Квадра 4

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +5 / +10 | 751 | → 5 |
| Гродна | +7 / +13 | 755 | ↗ 4 |
| Мінск | +4 / +15 | 746 | → 4 |
| Магілёў | +4 / +13 | 738 | ↓ 2 |
| Брэст | +7 / +15 | 755 | ↗ 4 |
| Гомель | +4 / +15 | 756 | ↘ 4 |

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

- Мінімальная тэмпература –5,4 °С у 1986 годзе
- Максімальная тэмпература +16,5 °С у 2002 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 11,9 мм у 2006 годзе

Назіранні 37 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Як навучыць дзетак эканоміць энергію і як яны вучаць гэтаму дарослых? Энергазберажэнню вучаць у яслях-садку №6 у Ашмянах.



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 15 (1041) 10.04.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 468. Падпісана ў друк у 9.00 9.04.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.